*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*
*Алег Лойка*


# Слонімскі край



2020, № 10(56). Верасень


# 290 гадоў каранацыі Жыровіцкай іконы Божай Маці




Працяг на ст. 2

# Рэвалюцыйны год

## *Слонімшчына на старонках газеты "Гродненскія губернскія вѣдомости" ў 1905-м*

Паколькі ў ХІХ стагоддзі — у пачатку ХХ ст. мясцовай прэсы ў Слоніме не было, *"Гродненскія губернскія вѣдомости"* застаюцца важнай крыніцай інфармацыі пра жыццё нашага горада і павета. Выданне выходзіла двойчы на тыдзень. У ім змяшчаўся ў асноўным афіцыёз — указы, распараджэнні, пастановы, прызначэнні, статыстычныя звесткі, аб'явы. Была "неафіцыйная частка" газеты, якая выходзіла штотыднёва і мела сваю нумерацыю. У ёй было шмат хронікі, карэспандэнцый, нарысаў, звестак пра мясцовую гісторыю і культуру.



Працяг на ст. 3

# 290 гадоў каранацыі Жыровіцкай іконы Божай Маці

*Працяг, пачатак на ст.1.*

Гэта адна з самых выдатных дат у гісторыі слонімскай зямлі. 19 верасня (8-га — па старым стылі) 1730 года адбылася каранацыя Жыровіцкай іконы Божай Маці. Гэты асаблівы акт шанавання цудатворных ікон існуе ў Рымска-Каталіцкай Царкве. І тут нічога дзіўнага — Жыровіцкая абіцель у той час была ўніяцкай (грэка-каталіцкай). Пра ікону ведалі ў Рыме, яе шанавалі.

Рашэнне аб каранацыі было прынята ў 1726 годзе пры Папе Бенедыкце XIII. Перад гэтым вывучаліся сведчанні пра сотні цудаў, звязаных з Жыровіцкай іконай Божай Маці. А адбылася яна ўжо пры Папе Кліменце XII — патрэбны быў час на падрыхтоўку гэтай значнай падзеі. Да таго часу каранацыі ікон на тэрыторыі ВКЛ не было.

На Слонімшчыну прывезлі з Рыма дзве залатыя кароны, асвечаныя пантыфікам. На ікону іх усклаў уніяцкі Кіеўскі мітрапаліт Афанасій Шаптыцкі. У Слоніме па дарозе на Жыровічы на сродкі магнатаў і мясцовых жыхароў было пабудавана шэсць трыумфальных брамаў. Быў упрыгожаны Успенскі сабор.

На каранацыі прысутнічалі больш за 30 тысяч паломнікаў — магнатаў, шляхты, сялян, мяшчан. Тры арганізаваныя працэсіі прыйшлі ў Жыровічы з Вільні, Менску і Міра. Паколькі ўрачыстыя набажэнствы працягваліся 8 дзён, то за гэты час у абіцель завітала амаль 150 тысяч чалавек. Пра каранацыю гаварылі па ўсім ВКЛ.

●Генадзь Гурскі

# 60 экспанатаў пра Жыровіцкую святыню




У жніўні ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адкрылася выстава, прысвечаная юбілеям Жыровіцкай святыні. На ёй прадстаўлены каля 60 экспанатаў. Сярод іх — кнігі XIX-XXI стагоддзяў. Прэс-служба бібліятэкі адзначае, што *“выстава… абуджае цікавасць да праваслаўнага краязнаўства і гісторыі праваслаўя ў Беларусі”.*

Фота: nlb.by

# Рэвалюцыйны год

## *Слонімшчына на старонках газеты "Гродненскія губернскія вѣдомости" ў 1905-м*



*Працяг, пачатак на ст.1*

У гэтым нарысе мы разгледзім *"Гродненскія губернскія вѣдомости"* толькі за адзін год — 1905-ы. Гэта быў час, калі ў Расійскай імперыі выбухнула рэвалюцыя. Але на старонках газеты палітычная інфармацыя "фільтравалася", улады ўсяляк спрабавалі супакоіць насельніцтва, абяцалі "перамены". Друкавалася шмат даных пра эканоміку краю, пра грамадскае і культурнае жыццё, адукацыю. А яшчэ былі здарэнні, крымінал. Апошняму і прысвечана першая частка.

### Напад на інкасатараў

15 лістапада 1905 года бухгалтар Слонімскага казначэйства Кунаховіч і "прысяжны лічыльнік" Данілюк пайшлі ў мясцовую паштова-тэлеграфную кантору, каб атрымаць "грашовую карэспандэнцыю". Ім выдалі наяўных грошай 800 рублёў, каштоўныя паперы, дакументы на 12 тысяч рублёў. Усё гэта інкасатары паклалі ў партфель і апоўдні накіраваліся па Апанасаўскай вуліцы (цяпер — Пушкіна) у казначэйства. Кунаховіч і Данілюк ішлі пешшу. Па дарозе яны сустрэлі двух невядомых. Пасля высветлілася, што гэта былі мешчанін з Ліды Зорах Ілітовіч і мешчанін з мястэчка Дварэц Слонімскага павета Евель Юдзелевіч. Яны наблізіліся з мэтай рабунку і засыпалі пацярпелым вочы нюхальным тытунем. Адзін са зламыснікаў спрабаваў выхапіць партфель з грашыма, але яму гэта не ўдалося зрабіць. Пры гэтым быў зроблены стрэл з рэвальвера, які нікога не параніў (хто страляў, у газетнай публікацыі не паведамлялася).

Пра інкасатараў слонімскага банка братоў Амвросія і Гаўрыіла Данілюкоў сёлета пісаў краязнаўца і журналіст Ігар Пракоф'еў (*Прокофьев И. Шла девушка к бессмертью своему! // Слонімскі веснік, 2020, № 24-25, 3 сакавіка*).

### Згубленыя ці скрадзеныя рэчы

У верасні Слонімскае павятовае паліцэйскае ўпраўленне аб'явіла, што мясцовы мешчанін Файтэль Каменамосткі згубіў пяцігадовую пашпартную кніжку, выдадзеную яму Слонімскай мяшчанскай управай 17 красавіка 1905 года № 556, а таксама пасведчанне аб поўным вызваленні ад вайсковай службы, выдадзенае Слонімскай павятовай па вайсковай павіннасці прысутнасцю 5 лістапада 1900 г. за № 4364.

У студзені была апублікавана аб'ява пра згубленую "пашпартную кніжку" ўдавы падпалкоўніка Ганны Аляксееўны Разанцавай, якая жыла ў Слоніме. Дакумент ёй Слонімскае павятовае паліцэйскае ўпраўленне выдала 24 сакавіка 1897 года за № 280.

Вясной слонімскі мешчанін Зельман Гіршаў Кевес згубіў дублікат накладной на груз, які па чыгунцы мусілі даставіць з Расіі.

У лістападзе запасны барабаншчык 179-га пяхотнага Усць-Дзвінскага палка Абрам-Моўша Хаімаў Рабіновіч заявіў у слонімскую паліцыю, што згубіў білет аб звальненні, выданы яму камандзірам названага палка 10 жніўня 1899 года за №3217. Летам падобная гісторыя здарылася з жыхаром Азярніцы Беркам Камянецкім — яго білет аб звальненні за № 62 быў выдадзены камандзірам 71-га пяхотнага Бялоўскага палка ў 1892 годзе.

У ліпені канцылярыя гродзенскага губернатара аб'явіла, што аўстрыйская падданая Марыя Гадлеўская, якая жыве ў маёнтку Альбярцін,

*Працяг на ст. 4*

# Рэвалюцыйны год


ГРОДНЕНСКІЯ ГУБЕРНСКІЯ ВѢДОМОСТИ
ВЫХОДЯТЪ ПО ВТОРНИКАМЪ И ПЯТНИЦАМЪ.

*Працяг, пачатак на ст. 1, 3*

згубіла выдадзены ёй 16 студзеня 1903-га за № 83 пашпарт на пражыванне ў Расійскай імперыі.

У чэрвені слонімскі мешчанін Рувін Абрамаў Перкін згубіў пашпартную кніжку, выдадзеную яму Слонімскай мяшчанскай упраўай 4 жніўня 1897 года за № 1620 тэрмінам на 5 гадоў.

13 ліпеня 1905 года лясны кандуктар слонімскага лясніцтва Судзілоўскі згубіў адпускное кляймо з выявай дзяржгерба.

У пачатку снежня непрыемнасці адбыліся ў калежскага дарадцы Івана Аляксеевіча Сярэдзіна, які ў той час жыў у Слоніме. У яго знік *"незапоўнены тэкстам вексельны бланк на суму да 300 рублёў, які захоўваўся ў яго ў пісьмовым стале, падпісаны сынам яго, калежскім рэгістратарам Іванам Іванавічам Сярэдзіным"*.

У пачатку года па дарозе Жыровічы — Слонім пісар 118-га Шуйскага палка Ланкоў знайшоў парасон з белай парусіны і з драўлянай ручкай. Пра гэта давалася інфармацыя ў газету.

## Скрадзеныя распіскі

У студзені 1905-га Слонімскае павятовае паліцэйскае ўпраўленне паведаміла пра здарэнне са слонімскім мешчанінам Абрамам Грынбергам. У яго скралі распіскі на вялікую суму — 7300 рублёў. Альбо Грынберг запісаў, каму і колькі даваў, альбо аднавіў гэта па памяці. У газеце быў апублікаваны спіс з прозвішчамі і пазычанымі сумамі: Моўша Левін 18 траўня 1904 года на 500 руб., Сахор Лейба Вайнберг 23 жніўня 1904 года на 400 руб., Хон Штэйнберг 26 жніўня 1904 г. на 500 руб., Мнуха Лазінская 25 жніўня 1904 года на 500 руб., Падок Дубінбаўм 25 жніўня 1904 года на 1000 руб., Арон Каплінскі 4 студзеня 1904 года на 100 руб., Ханон і Гірш Мірковічы 26 лютага 1904 года на 300 руб., Лейзер-Іосель Клячкін 15 чэрвеня 1903 года на 200 руб., Янкель Белавус 1 верасня 1904 года на 500 руб., Сроль-Мордух Штэйнберг 3 лістапада 1904 года на 700 руб., Малка Урыноўская 7 верасня 1904 года на 500 руб., Сімха Мінц 3 жніўня 1904 г. на 200 руб., Абрам Вігдэровіч 11 жніўня 1904 года на 200 руб., Вульф Берман 23 жніўня 1904 года на 200 р., Гірш Грайвер 11 жніўня 1904 года на 200 руб., Іцка Куніца 11 жніўня 1904 г. на 100 руб., Шмуэль-Моўша Рабіновіч 11 жніўня 1904 г. на 100 руб., Шымен Анекштэйн 12 жніўня 1904 г. на 100 руб., Хаім Бурштэйн 11 жніўня 1904 года на 200 руб. і на 300 руб., і Моўша Левін 10 верасня 1904 года на 500 рублёў.

## Скандал у касцёле

У касцёле на Замосці ў Слоніме 24 ліпеня мусіў быць здзейснены абрад шлюбу мясцовага мешчаніна А. К. з дзяўчынай А. М. Але сярод іншых у храм зайшла сялянка П. з вёскі Малая Кракотка. "Маючы да жаніха прэтэнзію з нагоды ранейшага з ім сажыцельства, П. у пачатку здзяйснення абраду шлюбу падскочыла да К. і нанесла яму некалькі ўдараў парасонам па галаве, чым парушыла абрад шлюбу і *благочиние*", — чытаем у газеце пра тое здарэнне. На сялянку склалі пратакол, яе справу мусіў разглядзець суд.

## Пажары

У хроніцы вельмі часта згадваліся пажары. Адзначалася, што яны "штогод адбываюцца ў адных і тых жа валасцях".

12 траўня а 15-й гадзіне пажар пачаўся ў Чамярах. У васьмі сялянаў былі знішчаныя жылыя і гаспадарчыя пабудовы — страты ацанілі на 5 тысяч рублёў. Будынкі былі застрахаваныя на 1976 рублёў 61 капейку. Прычыну пажару не высветлілі.

У чэрвені згарэлі пабудовы 23 сялян у Саковічах, страты — да 10 тысяч рублёў. У той жа час у Пятралевічах згарэлі пабудовы 10 сялян, страты — 3 тысячы рублёў. 4 ліпеня ад маланкі ўзнік пажар у Клепачах, страты — 800 рублёў (страхоўка — 350 рублёў).

Былі і падпалы. У вёсцы Савічы Шылавіцкай воласці 25 ліпеня згарэлі пабудовы 38



сялянаў. Страты склалі 30000 рублёў (згарэлыя пабудовы былі застрахаваны на 8905 рублёў 29 капеек). Высветлілася, што пажар адбыўся ад падпалу селянінам Якавам Шухно.

## Забойствы

У пачатку лета дзесьці на Слонімшчыне селянін Сямён Жалезны ўдарыў сякерай селяніна Сцяпана Высоцкага. Апошні памёр. Паліцыя высветліла, што Жалезны вартаваў дрэва на плыце, а Высоцкі спрабаваў некалькі бярвён скрасці.

13 студзеня ў лесе, які належаў да маёнтка Аляксандрава двараніна Керсноўскага, недалёка ад вёскі Ямічна (цяпер Баранавіцкі раён) на пні знайшлі кошык, у якім аказаўся труп немаўляці, загорнуты ў ганучы. Гэта была дзяўчынка, задушаная адразу пасля нараджэння. Паліцыя шукала маці-забойцу.

У лістападзе гродзенскі губернатар аб'явіў прыставу 5-га стана Слонімскага павета Дзехцярову і паліцэйскаму ўрадніку Кандрашуку падзяку *"за распараджальнасць і сумленнае выкананне доўга службы"*, выяўленыя імі ў справе пошуку забойцаў начнога вартаўніка маёнтка Азарычы селяніна Сакалоўскага. А ў пачатку года срэбраны медаль з надпісам *"за усердие"* атрымалі гарадавыя слонімскай паліцэйскай каманды Іван Чарнушэвіч, Гаўрыла Матус, Вікенці Гаркавы і Іван Мацкевіч.

## Пошукі і арышт

У пачатку лета Гродзенскае губернскае праўленне шукала мешчаніна г. Слоніма Аўдзія Іцкава Ласкіна, а таксама "пазбаўленага правоў" слонімскага мешчаніна 27-гадовага Канстанціна Іванова Юшкевіча.

У ліпені быў аб'яўлены ў вышук селянін Вікенцій Іваноў Леўшын, якога абвінавачвалі ў крадзяжы жыта ў снапах. З Дзераўной знік селянін Сямён Нікадзімаў Радзевіч, якога абвінавачвалі ў крадзяжы "розных рэчаў" у мешчаніна Абрама Сакалоўскага. Шукалі і Івана Данілава Радзевіча з той жа вёскі і таксама за крадзяжы.

У лістападзе паліцыя шукала селяніна з Альбярціна Шылавіцкай воласці Фёдара Максімава Дыліша, які абвінавачваўся ў крадзяжы. У тым жа месяцы Гродзенскае губернскае акцызнае ўпраўленне шукала сланімчанку Мушу Іцкаўну Бурштэйн з мэтай спагнання з яе 15 рублёў за парушэнне акцызнага статута.

Летам трыма тыднямі арышту за нейкае парушэнне быў пакараны селянін Кастровіцкай воласці Аляксандр Восіпаў Русак.

Па пастанове начальніка губерні 17 жніўня 1905-га галынскі мешчанін Аўсей Сролеў Рабіновіч і сын утрымальніка гасцініцы ў Слоніме Арон Завулінаў Алейнік *"за парушэнне дзейнай пастановы… падвергнуты адміністрацыйнаму арышту на месяц"*.

## Суды

У студзені ў Слоніме з удзелам прысяжных засядацеляў мусіла прайсці сесія часовага крымінальнага аддзялення Гродзенскага акруговага суда. Па справах праходзілі сяляне Іван Лава, Сцяпан Карпук, Сцяпан Каспяровіч, Тарас Пішчыкевіч, Сцяпан Логін, Міхаіл Філіпчык, Сцяпан Шрубейка, Канстанцін Аніська, Антон Эдэр ды іншыя, мяшчане Янкель Савіцкі, Арон Бабровіцкі, Рубін Гошкавіч ды іншыя.

У кастрычніку 1905-га ў нашым горадзе з удзелам прысяжных засядацеляў мусіла прайсці чарговая сесія часовага крымінальнага аддзялення Гродзенскага акруговага суда. На 11 кастрычніка прызначылі разгляд спраў аб крадзяжах. Па

*Працяг на ст. 6*

# Рэвалюцыйны год

*Працяг, пачатак на ст. 1, 3-5*

іх праходзілі мешчанін Янкель Школьніковіч, селянін Вікенцій Палулех, каланіст (фін?) Ейна-Рувін Прэс.

На 12-е прызначылі разгляд спраў аб забойствах, па якіх праходзілі сяляне Міхаліна Сурма, Пётр Піваварчык і Якаў Фамін Дабрыянік.

На 13-е — справы аб нанясенні ран ці цялесных пашкоджанняў: мешчанін Уладзіслаў Расінскі, сяляне Мікалай Ляўшук і Гаўрыіл Сямёнаў Скіндлер.

На 14-е прызначылі разгляд спраў сялян — Вікенція Граміцкага (абраза блізкіх сваякоў), Аляксея Прусевіча (нанясенне ран і цялесных пашкоджанняў), Васіля Бішкарэвіча, Фёдара Царыка (рабунак), Міхаіла Прыступы і Паўла Шакала (крадзеж).

15 кастрычніка ў судзе збіраліся разгледзець справу святара Іпаліта Каржатоўскага аб абразах ці службовай асобы, ці ўстановы. У той дзень таксама мусілі судзіць сялян Восіпа Татарчыка, Івана Пугацэвіча, Акуліну Копач, Даніїла Скока, Іллю Шэлясуна, мяшчаніна Сцяпана Навіцкага, пасяленца Емяльяна Каўша — за пабег з высылкі.

### Уцёкі арыштантаў

Летам 1905-га Гродзенскае губернскае праўленне шукала ўцекачоў з арыштанскай Слонімскага паліцэйскага ўпраўлення. 32-гадовы Сямён Іванавіч Холад і 28-гадовы Марк Фаусцінавіч Марцішка збеглі ўначы з 22 на 23 ліпеня. Вядома, што Холада абвінавачвалі ў крадзяжы. Фотаздымкі ўцекачоў у газеце не публікаваліся, прыводзіліся толькі іх прыкметы.

### Фальшыўкі

У пачатку чэрвеня ў Дзярэчыне Слонімскага павета (цяпер — Зэльвенскі раён) у доме яўрэя Янкеля Біршстэйна выявілі падробленыя паштовыя і гербавыя маркі: 1200 і 800 штук адпаведна. Доказы віны былі відавочныя, паколькі знайшліся і прыстасаванні для падробкі. "Бізнес" Біршстэйна спыніўся, дзякуючы мясцоваму паліцэйскаму і начальніку паштова-тэлеграфнага аддзялення.

### Град

Зусім мала было паведамленняў пра стыхійныя бедствы на Слонімшчыне. 11 чэрвеня ад граду пацярпеў маёнтак Дзеравянчыцы Шылавіцкай воласці. Цалкам была выбіта 41 дзесяціна азімых і 22 дзесяціны бульбы.

### Ухілісты ад службы ў войску

З нумару ў нумар газета друкавала прозвішчы асобаў, якіх не маглі знайсці тагачасныя "ваенкаматы". Вось адзін прыклад: *"Слонімская павятовая па вайсковай павіннасці прысутнасць атрымала метрыку аб нараджэнні 8 кастрычніка 1884 года пазашлюбнага Канстанціна Чугуева, месцажыхарства якога і прыпіска (як і яго маці), не выяўлены".*

Падрыхтаваў ●Сяргей Ёрш

*Працяг у наступным нумары*

ГРОДНЕНСКІЯ
ГУБЕРНСКІЯ ВѢДОМОСТИ.



ЧАСТЬ НЕОФФИЦІАЛЬНАЯ
ВЫХОДИТЪ ЕЖЕНЕДѢЛЬНО.

ПОДПИСНАЯ ЦѢНА
съ пересылкой и доставкой:
на годъ . . . . 2 руб. 50 коп.
— полгода . . . 1 „ 50 „

ПРИСЫЛАЕМЫЯ СТАТЬИ И КОРРЕСПОНДЕНЦІИ должны быть за подписью автора, съ обозначеніемъ адреса и тѣхъ условій, на которыхъ онѣ могутъ быть напечатаны; статьи безъ обозначенія этихъ условій считаются безплатными. Поступившія въ редакцію статьи, по усмотрѣнію редакціи, подлежатъ измѣненіямъ и сокращеніямъ. Плата за статьи назначается по усмотрѣнію редакціи. Присылаемыя въ редакцію статьи не возвращаются.
РЕДАКЦІЯ помѣщается въ зданіи губернскаго правленія и открыта для личныхъ объясненій ежедневно отъ 12 до 3 часовъ дня, кромѣ дней праздничныхъ.

# З гісторыі ўладальнікаў маёнтка Старыя Жыровічы з канца XV стагоддзя да 1939 года

*Працяг, пачатак у № 6-9, 2020 г.*

Радавод Мікульскіх

4.2.Сям'я Аляксандра Мікульскага

Аляксандр Мікульскі — дэпутат трыбуналу Вялікага Літоўскага ў сярэдзіне XVIII стагоддзя, суддзя земскі слонімскі з 1768-га, харунжы слонімскі з 1778 года. Ён меў некалькі маёнткаў на Слонімшчыне, а таксама на Пружаншчыне.

Сям'я Міхала Мікульскага і Юзэфы Валовіч жыла ў маёнтках Вензавец і Дзеравянчыцы, а сям'я Андрэя Мікульскага і Маргарыты Стравінскай мела ва ўласнасці маёнтак Старыя Жыровічы. Найхутчэй Міхал і Андрэй былі роднымі братамі, сынамі суддзі земскага слонімскага Аляксандра Мікульскага.

4.3.Сям'я Міхала Мікульскага

Магчыма, што слонімскі суддзя Міхал Мікульскі (каля 1740 — каля 1824) быў двойчы жанаты. Першым шлюбам з Сафіяй Валовіч, ад якой меў дачку Петранэлю Іаану. Яна нарадзілася ў 1799 годзе ў маёнтку Дзеравянчыцы, хросным бацькам яе запісаны ў метрыцы надворны маршалак Станіслаў Солтан. А праз 2 гады ў тым жа маёнтку Дзеравянчыцы ў Міхала Мікульскага і Юзэфы Валовіч нарадзіўся сын Рыгор. Магчыма нават, што Сафія Валовіч даводзілася роднай сястрой Юзэфе Валовіч.

У сям'і слонімскага земскага суддзі Міхала Мікульскага і Юзэфы Валовіч (? — 1849) нарадзіліся дзеці: Ганна, Ісідар, Іосіф, Аляксандр, Эвеліна, Тэадора, Юлія, Соф'я. Праз шлюбы дзяцей сям'я Мікульскага парадніласся з уплывовымі дваранскімі сем'ямі — Біспінгамі, Аскеркамі, Валовічамі, Абрамовічамі, Ордамі.



*Радавод Мікульскіх*

Ганна Мікульская

Суседнія з Літвой казённыя землі Глоўсевіцкага вайтоўства ў 1809 годзе арандаваў старадубскі маршалак Ян Тадэвуш Біспінг (1743 — 1822) — найбагацейшы магнат Ваўкавыскага павету. У Жыровічах ён узяў шлюб з Ганнай Мікульскай (1749 — 25.01.1820).

Род Біспінгаў мае нямецкае паходжанне: яны пакінулі Вестфалію ў выніку ганенняў на пратэстантаў, і ў часы

# З гісторыі ўладальнікаў маёнтка Старыя Жыровічы з канца XV стагоддзя да 1939 года

*Працяг, пачатак на ст. 7*

Стэфана Баторыя прыбылі ў Рэч Паспалітую. Сын Ганны Мікульскай Адам Біспінг ажаніўся ў 1809 годзе ў Жыровічах на сваёй стрыечнай сястры Тэрэзе Мікульскай (нарадзілася каля 1788 г., памерла ў Струбніцы 25 красавіка 1840 г.). У Жыровічах у 1810 годзе ў маладой сям'і нарадзіўся сын Каміл.

Пасля ўваходжання французскай арміі ў Вільню 27 чэрвеня 1812 года ў Літве пачалося фарміраванне пяхотных палкоў. У 1812 годзе Адам Біспінг сфарміраваў за свой кошт такую вайсковую адзінку і быў прызначаны Напалеонам Банапартам палкоўнікам 20-га пяхотнага літоўскага палка.

Полк Адама Біспінга падпарадкоўваўся генералу Яну Канопку. Штаб-кватэра яго месцілася ў Слоніме, а сам полк быў сфарміраваны з мясцовай беларускай шляхты, якую Біспінг настойліва заклікаў ісці на абарону і адраджэнне сваёй краіны. 19 кастрычніка 1812 года полк быў разбіты рускімі войскамі.

Два сыны Ганны Мікульскай Пётр (1777 — 1848) і Адам (1782 — 1858) арэндавалі землі Глоўсевіцкага вайтоўства. Канцылярыя Гродзенскага губернатара распачала 6 чэрвеня 1818-га на 217 аркушах справу аб адмове казённых сялян Глоўсевіцкага вайтоўства плаціць павіннасці. Галеча, голад, здзекі арандатараў выклікалі ў 1818 годзе ў в. Глоўсевічы сялянскае хваляванне, аб якім данеслі віленскаму генерал-губернатару і ў вёску ўвялі артылерыйскую брыгаду.

Унучка Ганны Мікульскай, дачка ваўкавыскага маршалка Пятра Біспінга Наталля Ганна Біспінг (1801 — 1888) стала вядомай мастачкай, вывучала гісторыю ВКЛ, напісала шэраг прац па археалогіі, сабрала калекцыю манет і медалёў, пачынаючы ад сярэдневечча да часоў Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Яна сябравала з паэтам і гісторыкам Юльянам Урсынам Нямцэвічам, паэтам Антоніем Эдвардам Адынцом,




*Візіт на радзіму французскіх нашчадкаў беларускага мастака і кампазітара Напалеона Орды Х'юберта Дэнармандзі і яго жонкі Марыі Клер. Фотаздымак з сямейнага альбома Х. Дэнармандзі*

кампазітарам Шапэнам.

Праўнучка Ганны Мікульскай Леанціна Влодэк возьме шлюб з графам Францішкам Ксаверыям Пуслоўскім, а праўнук Фелікс Влодэк стане кіраўніком паўстання 1863 года ў Пружанскім павеце.

Прапраўнучка Ганны Мікульскай Марыя Леанціна Пуслоўская возьме шлюб з Каралем Гутэн-Чапскім, які займаў пасаду гарадскога галавы ў Мінску ў 1890-1901 гадах і прыкладаў усе намаганні, каб надаць гораду еўрапейскі выгляд.

### Эвеліна Мікульская

Эвеліна Петранэлія Мікульская (? — 29 кастрычніка 1851) атрымала па спадчыне ад бацькоў Міхала Мікульскага і Юзэфы Валовіч маёнтак Дзеравянчыцы, у склад якога ўваходзілі вёскі Бракава, Новае Сяло і фальварак Скоўдзічы. Згодна з дакументам 1824 года аб падзеле сямейнай спадчыны сям'і Мікульскіх, пасля смерці бацькі маёнтак Дзеравянчыцы быў падзелены на дзве часткі паміж Аляксандрам і яго сястрой Эвелінай Мікульскімі, маёнтак Вязавец адышоў брату Ісідару, а маёнтак Глыбокае ў Лідскім павеце — брату Іосіфу. У дадатку № 75 да газеты "Кур'ер Літоўскі" ад 1 красавіка 1835 года брат Эвеліны Орды, прэзідэнт гранічнага суда Лідскага павета Аляксандр Мікульскі, пратэстуе супраць абмежавання яго ў спадчынным праве на валоданне часткай маёнтку Дзеравянчыцы з-за дэбіторскай запазычанасці на карысць яго сястры Эвеліны Орды. Ён пісаў наступнае: *"Бацька наш пакінуў нам гэтыя маёнткі, абцяжараныя пазыкамі, якія пасля смерці яго значна павялічыліся: спадчына ўключала некалькі сотняў душ сялян і некалькі дзясяткаў тысяч злотых дэбіторскай запазычанасці".*

У архіўных дакументах ад 1830 года Эвеліна ўжо згадваецца, як жонка стацкага дарадцы Пятра Апалінар'евіча Орды (памёр 30 лістапада 1870 г.). У іх сям'і нарадзіліся дзеці Адам (1835 — 1897), Леанціна (?1837 — 1909), Іосіф (20 чэрвеня 1840 — 27 траўня 1927) .

Сын Адам Пятровіч Орда стаў генералам, героем Крымскай вайны 1853-1856 гадоў, ваенным інжынерам, пісьменнікам, навукоўцам, выкладчыкам фартыфікацыі і міннага мастацтва, заслужаным прафесарам Мікалаеўскай інжынернай ваеннай акадэміі, Георгіеўскім кавалерам.

16 ліпеня 1878 года Вітольд Орда, сын знакамітага мастака Напалеона Орды, ажаніўся з Леанцінай Ордай (1860 — 15 траўня 1886-га), унучкай Пятра Апалінар'евіча Орды. У дакуменце аб шлюбе Вітольда і Леанціны Камілы Браніславы Орды, які мне даслаў з Францыі нашчадак Напалеона Орды Х'юберт Дэнармандзі, згадваецца сведка 43-гадовы Адам, сын Пятра Апалінар'евіча Орды.

У перыяд з 1861-1877 гадоў Напалеонам Ордай былі зроблены малюнкі сядзіб і храмаў Слонімшчыны. Мастак некаторы час жыў у сваяка Пятра Апалінар'евіча Орды ў Дзеравянчыцах. Яркае ўяўленне пра радавую капліцу Ордаў у Дзеравянчыцах нам дае малюнак, які быў выкананы мастаком у перыяд паміж 1861-1877 гадамі.

У Францыі ў сям'і Х'юберта Дэнармандзі беражна захоўваецца сямейны фотаальбом, які зафіксаваў розныя моманты з жыцця сям'і Напалеона Орды. Сярод пажаўцелых фотаздымкаў захоўваецца і партрэт генерала з Дзеравянчыц, які даводзіўся Леанціне Каміле Браніславе родным дзядзькам.

Другая ўнучка дзеравянчыцкага Пятра Орды Марыя Орда выйшла замуж за сына Філарэнція Мікульскага Валенсія, і ўвесь час жыла ў маёнтку Старыя Жыровічы. Сёння ў сям'і Дэнармандзі захоўваюцца лісты на французскай мове, якія пісала Марыя Мікульская з Жыровічаў сваёй сястры Леанціне Каміле Браніславе ў Францыю.

Людзі жывыя, пакуль пра іх памятаюць… Нашчадкі Напалеона Орды з пакалення ў пакаленне будуць перадаваць сваім дзецям гісторыю сваёй сям'і.

### Аляксандр Мікульскі

У складзе 20-га пяхотнага літоўскага палка Адама Біспінга ў 1812 годзе ваяваў і Аляксандр Мікульскі (1795 — ?), сын Міхала Мікульскага і Юзэфы Валовіч. Былы прэзідэнт суда гранічнага лідскага Аляксандр Мікульскі ажаніўся з Камілай Ордай (03.07.1812 — пахавана 14.03.1871 г. у маёнтку Новы Двор). У маёнтку Дзеравянчыцы ў сям'і Аляксандра і Камілы нарадзіліся дочкі: Юзэфа Схаласціка і Апалонія Марыя Мікульскія.

Аляксандр Мікульскі прымаў удзел у паўстанні 1830-1831 гадоў, аб чым сведчыць запіс канцылярыі гродзенскага губернатара: *"Дваранін Аляксандр Мікульскі… за удзел у былым 1831 г. мецяжы знаходзіцца пад наглядам і сакрэтным назіраннем паліцыі па Слонімскім павеце, часова жыве ў маёнтку Сынковічы памешчыка Пуслоўскага".*

### Ісідар і Іосіф Мікульскія

У час нацыянальна-вызваўленчага паўстання 1830-1831 гадоў слонімскія паўстанцы-патрыёты са зброяй

# З гісторыі ўладальнікаў маёнтка Старыя Жыровічы з канца XV стагоддзя да 1939 года

*Працяг, пачатак на ст. 7-9*

у руках падняліся на барацьбу за вольнасць і незалежнасць сваёй Айчыны. Пасля паўстання больш за 10 тысяч беларускіх шляхцічаў страцілі свае ўладанні, іх маёнткі забрала расійская дзяржава. Такі ж лёс напаткаў і маёнтак Вязавец Ісідара Андрэя Мікульскага, сына Міхала. На маёнтку была вялікая пазыка (больш за 53000 рублёў), спагнаць яе спрабавалі з старэйшага брата Аляксандра Мікульскага (пасля падаўлення паўстання браты Аляксандра Ісідар і Іосіф выехалі ў Францыю).

Маёнтак Вязавец быў канфіскаваны, а маёнтак Глыбокае з вёскамі Раганічы, Нарашы, Галаўцы і Савічы (цяпер вёскі ў Шчучынскім раёне) будзе значыцца за Аляксандрам Мікульскім. Унукі Аляксандра і Камілы Мікульскіх валодалі гэтымі землямі да пачатку Другой сусветнай вайны і многія прадстаўнікі роду былі пахаваны там.

Пільны нагляд паліцыі, пастаянныя вобыскі і допыты адбываліся і таму, што Мікульскія мелі родасную сувязь з сям'ёй паўстанца Міхала Валовіча, з роду якога паходзіла іх маці Юзэфа Валовіч (магчыма, што яна даводзілася роднай сястрой Казіміру Валовічу).

Ісідар Міхайлавіч (04.04.1800 — 1878) і Іосіф Міхайлавіч (1799 — 1856) Мікульскія нарадзіліся ў маёнтку Вязавец у сям'і Міхала і Юзэфы Валовіч. Браты атрымалі адукацыю ў Віленскім універсітэце, дзе глыбей зразумелі сваю адказнасць за лёс дзяржавы. Падчас




*Парыж, гістарычныя могілкі Манмартра, пахаванні сям'і Мікульскіх*

лістападаўскага паўстання 1830-1831 гадоў у корпусе генерала Дэзідэрыя Хлапоўскага ў Слонімскім павеце разам з братамі Мікульскімі ваяваў і будучы вядомы навуковец, нацыянальны герой Чылі Ігнат Дамейка. У сваіх успамінах ён згадвае пра сваіх суседзяў Мікульскіх. Вядома, што Іосіф Мікульскі прадаў свой маёнтак Арловічы ў Слонімскім павеце Івану і Людвігу Залеўскім за 6300 рублёў срэбрам, каб набыць зброю для паўстанцкага атрада.

Пасля падаўлення паўстання, браты перайшлі разам з генералам Хлапоўскім у Прусію, дзе былі інтэрніраваны. У эміграцыі Мікульскія першапачаткова былі ў Гамбургу, з снежні 1833 года — у Парыжы. Там 10 снежня 1831 года Іосіф Мікульскі стаў адным з заснавальнікаў Таварыства літоўскіх і рускіх земляў. 20 жніўня 1832-га ў Парыжы быў зачытаны праект звароту

таварыства: *“Браты! Зноў наша зямля ўяўляе страшэнную карціну спустошанасці і перададзена нашаму ворагу… Браты, вы — гонар сваёй нацыі, вы пакінулі свой родны край, каб памножыць колькасць нашых мсціўцаў, каб абвясціць пра нашу годнасць усяму свету… Нашы спробы і ахвяры, хоць ганебна марныя, але прынеслі свой плён. Сойм і войска пакінулі сваю любую радзіму… Новыя ланцугі, накладзеныя на нас, стогны выкрадзеных дзяцей, праклёны нашых маці, прынясуць помсту. Няшчасці нашыя і заслугі нашыя абуджаюць цікавасць народаў да нашай справы… Ваш прыклад і ваша няшчасце абудзілі ў нашага народа пачуццё годнасці і сілы, імкненне да свабоды і самаіснавання… Так, браты нашыя, момант помсты не за гарамі. Нацыянальная эміграцыя — гэта працяг нашага палітычнага жыцця; эмігранты — апосталы нашай палітычнай веры”.*

Пасля абмеркавання і абмену прапановамі зварот быў прыняты. Побач з подпісамі Адама Міцкевіча, Ігната Дамейкі, Міхала Валовіча і іншых стаіць подпіс і Іосіфа Мікульскага.

Ісідар Мікульскі ў Парыжы з братам Іосіфам і іншымі эмігрантамі актыўна ўдзельнічаў у дзейнасці Таварыства літоўскіх і рускіх земляў, у Гісторыка-літаратурным таварыстве і іншых арганізацыях. У Францыі Ісідар ажаніўся з Марыяй Дэхапіёт, у сям’і нарадзілася дачка Ісідорына Эмілія, у будучым мастачка-партрэтыст. Сям’я так і не вярнулася на радзіму, усе жылі ў эміграцыі і былі пахаваны на могілках Манмартра. Там, побач з вядомымі людзьмі, спачываюць і слонімскія паўстанцы: на 17-м участку пр. Principale пахаваны Казімір Валовіч (1779 —1849), бацька Міхала Валовіча, а




*Надмагілле Казіміра Валовіча і Юзэфы Валовіч у Парыжы на гістарычных могілках Манмартра*

побач з ім — магілы яго радні: паўстанцаў 1830-1831 гг. Ісідара (1800 — 1878) і Іосіфа (1799 — 1856) Мікульскіх, іх маці Юзэфы Мікульскай (? — 1849) з сям’і Валовіч, а таксама жонкі Ісідара Марыі Мікульскай (? — 1900).

У Парыжы жыў і знакаміты мастак Напалеон Орда, які пасля ўдзелу ў паўстанні 1830-1831 гадоў вымушаны быў эміграваць у Францыю. У Парыжы ён ажаніўся з француженкай Ірэнай Бугле, у іх нарадзіўся сын Вітольд. 16 ліпеня 1878 года Вітольд Орда, сын нашага знакамітага мастака, ажаніўся з Леанцінай Ордай, унучкай Пятра Апалінар’евіча Орды з Дзеравянчыцаў.

Стацкі дарадца Пётр Орда быў жанаты на роднай сястры Ісідара Мікульскага Эвеліне Мікульскай. Паколькі Напалеон і Пётр Орды былі сваякамі, можна меркаваць, што ў эміграцыі Напалеон Орда добра ведаў сваяка Пятра Орды Ісідара Мікульскага. Тое, што сям’я Ісідара Мікульскага была ў радстве з сям’ёю сына Напалеона Орды, можна прасачыць і ў дакуменце аб смерці Эдуарда, трохгадовага сына Вітольда і Леанціны Ордаў. 24 лютага 1886 года на пахаванні Эдуарда Орды сярод членаў сям’і прысутнічалі: Валенсій Мікульскі (сын Фларэнціна Мікульскага з Жыровічаў, ён быў жанаты на сястры Леанціны Марыі Ордзе). У спісе згадваюцца генерал Адам і Іосіф Орды (сыны Пятра Апалінар’евіча Орды з Дзеравянчыцаў, якія даводзіліся роднымі дзядзькамі Леанціне Ордзе, жонцы Вітольда Орды). У канцы спісу запісана ўдава Мікульская і мадмуазэль Ісідорына Мікульская (сям’я Ісідара Мікульскага). Тыя ж самыя сваякі 15 траўня 1886 года прысутнічалі на пахаванні 25-гадовай Леанціны Орды.

●Святлана Брайчук

*Працяг у наступным нумары*

СЛОНІМЦЫ Ў СВЕЦЕ

# Іосіф Чэрніхаў і яго сын-усходазнаўца

У аператыўнай зводцы № 52 НКУС БССР ад 25 кастрычніка 1939-га кіраўніку савецкай Беларусі Панцеляймону Панамарэнку паведамлялі пра следчую працу з затрыманымі на Віленшчыне. Сярод іх былі беларускі філосаф Уладзімір Самойла, паўстанец-зялёнадубец Янка Пешка-Густалес, адвакат Іосіф Самойлавіч Чэрніхаў. Апошні нарадзіўся ў Слоніме ў 1882 годзе. У дакуменце НКУС паведамляецца, што Чэрніхаў — яўрэй-сіяніст, жыў у Вільні, быў старшынём яўрэйскай абшчыны ў горадзе, працаваў кіраўніком саюза адвакатаў. Яго называлі *"перакананым яўрэйскім нацыяналістам"* ды яшчэ і антыбальшавіком. *"Следства працягваем у накірунку выяўлення сувязяў Чэрніхава з польскай разведкай і палітычнай паліцыяй",* — пісалі энкусаўцы.[1]

Дзіўна, што пра гэтага дзеяча так мала напісана. Больш інфармацыі можна сабраць пра яго адзінага сына Міхаіла Іосіфавіча Чэрніхава (Міхаіл/Майкл Астур, 1916, Харкаў — 2004, ЗША). Падчас грамадзянскай вайны ў Расіі сям'я слонімца была ва Украіне, адкуль выехала ў Літву, а дзесьці ў 1924-м — у Польшчу, жыла ў Вільні. Маці Міхаіла Рахіль Хофман была гісторыкам. Пад уплывам бацькі Міхаіл Чэрніхаў цікавіўся палітыкай, быў актывістам яўрэйскай арганізацыі скаўтаў, спрабаваў сябе ў паэзіі, перакладаў на ідыш творы Аляксандра Пушкіна, сябраваў з яўрэйскім паэтам Аўрамам Суцкеверам. У 1930-я Міхаіл пачаў выкарыстоўваць псеўданім "Міхаіл Астур", *"каб адрозніць сябе ад вядомага бацькі".*

Восенню 1939-га саветамі быў арыштаваны не толькі Іосіф Чэрніхаў, але і яго сын. Міхаіла Чэрніхава 26 жніўня 1940 года за ўдзел у яўрэйскай *"контррэвалюцыйнай"* маладзёжнай арганізацыі асудзілі на 5 гадоў папраўча-працоўных лагероў і накіравалі ў Котлас у Расію.[2] Бацька загінуў летам 1941-га падчас эвакуацыі энкусаўцамі зняволеных з вілейскай турмы. Іх гналі на ўсход пешшу. У Іосіфа Чэрніхава не было сіл хутка ісці і адзін з ахоўнікаў яго застрэліў.[3] Сына, як польскага грамадзяніна, вызвалілі ў верасні 1941-га. Але ў польскую армію Андэрса яго ці не прынялі, ці ён сам не захацеў там служыць. Зрабіў няўдалую спробу ўцёкаў у Іран у 1941-м, пасля — у 1943-м, калі быў арыштаваны і асуджаны на сем гадоў зняволення.[4]

У сталінскім ГУЛАГу Міхаіл выжыў і ў 1950 годзе выйшаў на волю (маці была забітая нацыстамі ў 1941-м). У 1956-м яму ўдалося выехаць у Польшчу, а ў 1959 годзе — у ЗША. Міхаіл Чэрніхаў стаў гісторыкам, доктарам навук, вядомым амерыканскім усходазнаўцам.

У біяграфіі Іосіфа Чэрніхова яшчэ шмат "белых плямаў". Са слоў сына вынікае, што ў Вільні сям'я жыла заможна, у Іосіфа была юрыдычная практыка, добрыя заробкі. Міхаіла адправілі вучыцца ў Парыж. Летам 1939-га ён, насуперак просьбе бацькоў заставацца ў Францыі, вярнуўся ў Польшчу. Там яго і заспеў пачатак Другой сусветнай вайны.

Іосіф Чэрніхаў быў смелым, мужным чалавекам. Падчас








Józef Czernichow

Przed rewtrybunałem

(Pamiętniki obrońcy)

Druk. „Ekspres" Wilno, Wielka 33.

*Кніга Іосіфа Чэрніхава, выдадзеная ў 1932 годзе ў Вільні*

грамадзянскай вайны ён абараняў людзей перад бальшавіцкімі рэвалюцыйнымі трыбуналамі ў Харкаве, ратаваў іх ад смерці. У пачатку 1930-х ён надрукаваў свае ўспаміны пра тыя падзеі ў друку, а пасля яны выйшлі і асобным выданнем. Міхаіл лічыў, што арышт бацькі савецкімі карнымі органамі быў выкліканы найперш гэтай кнігай.

Кніга “Перад рэвалюцыйным трыбуналам” выйшла на ідыш у Вільні ў 1932 годзе. Летась яе прадавалі ў інтэрнэце за 300 долараў.

●Сяргей Ёрш



Міхаіл Чэрніхаў (Міхаіл Астур)

*[1] НКВД в Западной Беларуси: сентябрь — декабрь 1939 г.: документы и материалы. — Минск — Москва, 2019. С. 163.*

*[2] Адамушко В., Иванова Н. “Помилуйте…”. Документы по репрессиям 1939 — 1941 гг. в Вилейской области. — Мінск, 1992. С. 92.*

*[3] James J. Weingartner. Michael C. Astour: A Biographical Essay // https://spark.siue.edu/cgi/viewcontent.cgi?article=1001&context=siue_fac*

*[4] Тамсама.*

# Марыя Ліштвіновіч

У Дзяржаўнай публічнай гістарычнай бібліятэцы Расіі ў Маскве галоўным бібліятэкарам працавала Марыя Васільеўна Ліштвіновіч. Яе біяграма ёсць сярод самых заслужаных работнікаў гэтай установы. На жаль, яна няпоўная.

Ліштвіновіч нарадзілася ў 1896 годзе, а дзе дакладна, невядома. У 1915 годзе яна скончыла Слонімскую жаночую гімназію. Далей была эвакуацыя ў Расію.

У 1916-1920 гадах Марыя Ліштвіновіч працавала ў бібліятэцы-чытальні імя Ключэўскага ў Маскве, вучылася на гісторыка-філалагічным факультэце Маскоўскага дзяржуніверсітэта, скончыла бібліятэчныя курсы. Відаць, у Маскве было нялёгкае жыццё, і яна выехала ў Саратаў. Магчыма, там у яе знайшліся сваякі. Ліштвіновіч затрымалася



ў Саратаве на дзесяцігоддзе, у канцы 1920-х выконвала абавязкі загадчыцы Ніжне-Волжскай краёвай цэнтральнай бібліятэкі.

З 1931-га ўжо вопытны бібліятэкар працавала ў Маскве. Была рэдактарам Крытыка-бібліяграфічнага інстытута, загадчыцай бібліятэкі Цэнтральнага музея Леніна. У Дзяржаўную публічную гістарычную бібліятэку ўладкавалася ў жніўні 1939-га. Спачатку была галоўным бібліятэкарам, загадчыцай аддзела абслугоўвання, а з 1950 года — загадчыцай сектара абменнага і рэзервовага фонду. Падчас бітвы пад Масквой у канцы 1941-га Марыя Ліштвіновіч кіравала брыгадай, якая будавала ўмацаванні каля горада. Пасля арганізавала філіял гістарычнай бібліятэкі на станцыі маскоўскага метро “Курская”.

На пенсію Ліштвіновіч выйшла восенню 1956 года. Пра яе далейшы лёс вядома толькі, што яна ўзначальвала грамадскую бібліятэку ў Жданаўскім раёне Масквы. Як бачым, выпускніца слонімскай гімназіі прысвяціла ўсё сваё жыццё бібліятэчнай справе.

●Генадзь Гурскі

СТАРЫЯ ЗДЫМКІ

# Касцяні, 1970 год

*Сваякі савецкага вайскоўца Лук’яна Рыгоравіча Лысенкі, загінулага ў гады вайны і пахаванага на Слонімшчыне. Касцяні, 1970 год. Са збораў Курганінскага гістарычнага музея*

У Курганінскім гістарычным музеі (Краснадарскі край Расіі) захоўваецца некалькі фотаздымкаў, зробленых у 1970 годзе ў вёсцы Касцяні на Слонімшчыне. На іх бачым два мерапрыемствы каля помніка загінулым падчас Другой сусветнай вайны, праведзеныя ў розны час. На некаторых здымках пазначана 9 траўня, на іншых — толькі год.

На двух фота прысутнічаюць сваякі загінулага ў гэтых месцах савецкага вайскоўца Лук’яна Рыгоравіча Лысенкі. Яны прыязджалі ў Беларусь з Расіі. Верагодна, Лысенкі і перадалі ў музей здымкі, зробленыя ў Касцянях.

Зусім магчыма, што хтосьці з піянераў 1970-х пазнае сябе на фота.






*Мітынг у Касцянях з удзелам вайскоўцаў, 1970 год. Са збораў Курганінскага гістарычнага музея*



*Сваякі савецкага вайскоўца Лук'яна Лысенкі*

З АРХІВАЎ

# У XIX стагоддзі ў Слоніме быў пад’ёмны мост



| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1076 | 1232 | Дело о постройке и исправлении водоспусков, под"емного моста в гор.Слониме, фашинных плотин, береговых укреплений и др. сооружений на Огинском канале в 1829 г. | 20дек. 1829 31марта 1833 | 411 |

У зборах Расійскага дзяржаўнага гістарычнага архіву ў Санкт-Пецярбургу захоўваецца аб’ёмная справа, якая мае непасрэднае дачыненне да Слоніма. Загаловак яе наступны — *“Справа аб пабудове і выпраўленні спускаў вады, пад’ёмнага маста ў горадзе Слоніме, фашынных плацін, берагавых умацаванняў і іншых збудаванняў на Агінскім канале ў 1829 годзе”* (ф. 206, воп. 1, спр. 1076).* Там сабраныя дакументы ад 20 снежня 1829-га да 31 сакавіка 1833 года. 411 аркушоў! Зусім магчыма, што прысутнічаюць ілюстрацыі.

Іншая архіўная справа мае назву *“Справа аб зацвярджэнні каштарысу на рамонт пад’ёмнага Слонімскага маста праз Слонімскі канал Агінскай сістэмы”* (ф. 206, воп. 2, спр. 442). У ёй дакументы ад 16 верасня 1835-га да 17 чэрвеня 1838 года.

Што ж гэта за пад’ёмны мост, дзе і калі ён быў пабудаваны? На канале Агінскага ў Слоніме ў той час былі два масты — на Маставой вуліцы (цяпер — Янкі Купалы) і на цяперашняй Савецкай вуліцы. Магчыма, апошні быў пад’ёмны? Ці не ў часы старасты Міхала Казіміра Агінскага ён быў пабудаваны? А расійскія ўлады ў XIX стагоддзі яго ўжо толькі рамантавалі.

Засталося толькі даследчыкам дабрацца да згаданага архіву і азнаёміцца з гэтымі дакументамі. Магчыма, там ёсць і іншыя невядомыя факты.

●Генадзь Гурскі

**https://rgia.su/object/4682203*



*Малы канал Агінскага ў Слоніме на плане канца XVIII стагоддзя. На ім бачым масты на Маставой вуліцы, а справа — меншы мост, які злучаў левы бераг з правым, слаба заселены слонімцамі*

СЛОНІМСКІЯ КАРЭСПАНДЭНЦЫІ

# Будынак былога кляштара — для народнай вучэльні

Пасля падаўлення вызваленчага паўстання 1863-1864 гадоў у нашым краі напоўніцу працавала руская прапаганда. Стаяла задача русіфікацыі грамадства — праз прэсу, праз адукацыю, праз царкву. *“Вѣстникъ западной Россіи”*, “гісторыка-літаратурны часопіс”, быў адным з рупараў імперцаў. На яго старонках з’яўляліся карэспандэнцыі са Слоніма. Найхутчэй іх аўтарам быў праваслаўны святар Клімент Смольскі.

У зацемцы, якую перадрукоўваем у перакладзе на беларускую мову, бачым, якую ўвагу рускія ўлады надавалі “правільнаму” выхаванню дзяцей: “ў духу рускай народнасці”. Яны спадзяваліся зламіць дух супраціву, прагу народа да самастойнага жыцця. Але не змаглі.


ЗАПАДНОЙ РОССІИ.

ИСТОРИКО-ЛИТЕРАТУРНЫЙ ЖУРНАЛЪ,

ИЗДАВАЕМЫЙ

К. ГОВОРСКИМЪ.

МАЙ.

ГОДЪ ТРЕТІЙ.

ТОМЪ III.

ВИЛЬНА.

ВЪ ТИПОГРАФІИ А. СЫРКИНА.

1865.

Нам пішуць са Слоніма, што 31 траўня [1865 года] прыбыў у слонімскую народную вучэльню с[падар] начальнік Гродзенскай губерні. Хлопчыкі радасна віталі яго правасхадзіцельства, першы раз у жыцці бачылі вышэйшага саноўніка, зусім не дэманструючы пры гэтым нясмеласці ці таго баязлівага прыніжэння, якое раней так было характэрна мясцовым запалоханым людзям.

Калі сп[ада]р начальнік губерні зайшоў у залу, навучэнцы стройна праспявалі малітву “Цару Нябесны”. Тут былі вучні праваслаўнага, рымска-каталіцкага, юдэйскага і магаметанскага веравызнанняў. На зададзеныя пытанні хлопчыкі вельмі добра адказвалі па Законе Божым і рускай мове. Пажадаўшы навучэнцам далейшых поспехаў, сп[ада]р начальнік губерні выказаў пры гэтым думку пра неабходнасць усеагульнай адукацыі ў духу рускай народнасці, без розніцы звання і маёмаснага стану, і пакінуў вучэльню, зрабіўшы на навучэнцаў самае прыемнае і радаснае ўражанне.

Наведванне гэта мела яшчэ адно дабрадзейнае наступства: сп[ада]р начальнік губерні зрабіў распараджэнне аб адводзе пад слонімскую народную вучэльню больш зручнага і бясплатнага памяшкання ў скасаваным слонімскім бернардзінскім манастыры. З тым, каб на наступны вучэбны год яно злучана было ў адно з іншай слонімскай народнай вучэльняй, якое падтрымлівалася сродкамі былога вайсковага начальніка г. Слоніма і засталося цяпер без усялякіх сродкаў да існавання, і склала двухкласную народную вучэльню. А сума, якая выдаткуецца на наём дому, вызначана была на заробак другому настаўніку.

*Вѣстникъ западной Россіи (Вільня), 1865. Травень. Т. III. С. 230-231.*

# Восень



Востры боль пранізаў наваколье,
Горай зьвера тупы чалавек.
Толькі б мець непахісную волю,
Магутнейшую волю за зьдзек.
Не падходзьце! Я сёньня малюся,
Сьвятой сілы ў грудзёх маіх брак,
З маіх, болем заціснутых, вуснаў
Нават слова ня вырваць ніяк.
Уздымаюцца брудныя хвалі,
Неспакойны варожы бярлог,
Ўжо ня раз яны пенай апалі
Ля маіх ля зьняволеных ног!
Не баюся няроўнасьці бою,
Што адна супраць цемры стаю,
Што мне душу атрутаю пояць.
Я жа знаю, за што яе п’ю!..

Ларыса Геніюш

УСПАМІНЫ

# На ўздыме

*1912-1919 гады ў Слонімскім раёне Заходняй Беларусі*

*Працяг, пачатак у № 9, 2020 г.*

## Замяшанне ў пачатку вайны

Вайна захапіла ўсіх знянацку. Гэта, як нельга лепш, скарысталі буржуазныя арганізацыі (кадэты, сіяністы і інш.) і царскія чыноўнікі, якія неадкладна прыступілі да арганізацыі патрыятычных маніфестацый і мітынгаў. Масы рабочых і сялян "пакорліва" накіроўваючыся на зборныя пункты, з злосцю абыходзілі ўсе гэтыя маніфестацыі. Накіроўваючыся паасобнымі часткамі на станцыю чыгункі, ішлі панура раскіданымі шэрагамі, часам змяшаўшыся з натоўпам матак, жонак, сясцёр і дзяцей, якія праважалі і адчайна плакалі. Плач жудасці і роспачы заглушалі гукі аркестраў, якія ішлі наперадзе часцей, што накіроўваліся на фронт, і крыкі "ўра", якія раздаваліся з натоўпу буржуазнай моладзі і дам.

Спробы даць ацэнку падзеям, што скл аліся, на рабочых сходах былі зроблены толькі па ўплыве 3-4 тыдняў пасля пачатку вайны. З іх найбольш характэрным з'яўляецца сход, праведзены ў лесе пад кіраўніцтвам бундаўскай арганізацыі. Устаноўку на гэтым сходзе даваў М. Лур'е, сын мясцовага лесапрамыслоўцы, які стаяў у той час блізка да кіруючых цэнтральных органаў Бунда. Асноўныя думкі дакладчыка заключаліся ў тым, што ніякім чынам не трэба жадаць паражэння царскай арміі і адпаведна перамогі нямецкаму мілітарызму, які з'яўляецца галоўнай небяспекай для сусветнай дэмакратыі. Таму ўсе


*Давід Закгейм*

сілы павінны быць мабілізаваны для барацьбы з арміяй нямецкага кайзера. Да таго, перамога нямецкіх штыхоў азначае захоп Германіяй Польшчы і Літвы, дзе жыве асноўная маса яўрэйскага насельніцтва, занятага галоўным чынам саматужнай вытворчасцю і дробным гандлем. Высока развітая прамысловасць і гандаль Германіі выцісне тады дробны гандаль і саматужную прамысловасць Літвы і Польшчы, што прывядзе да поўнага зруйнавання бяднейшых груп яўрэйскага насельніцтва. Адсюль і рабілася выснова, што з пункту гледжання абароны інтарэсаў яўрэйскіх і працоўных мас, нам таксама трэба абараняцца ад нападу нямецкай арміі.

Характэрна, што гэтая недарэчная дробнабуржуазная абывацельская "страпня", падмацаваная бессаромлівым падтасоўваннем фактаў з гісторыі мінулых войн і рэвалюцый, спаткала адабрэнне з боку большасці слухачоў. З членаў арганізацыі Бунду пярэчыў (і то не вельмі смела), толькі адзін. Гэта быў т[аварыш] Белкін (Закгейм), які стаў пасля актыўным бальшавіком і кіраваў пасля Кастрычніка* партыйнай арганізацыяй у г. Яраслаўлі і загінуў у часе Яраслаўскага мяцяжа.** Тав. Белкін стаяў на паражэнцкім пункце погляду, матывуючы гэта тым, што паражэнне [у вайне] прывядзе да хутчэйшага перавароту ў Расіі.

Паведамленне аб арышце бальшавікоў-дэпутатаў Дзяржаўнай думы шмат каму адчыніла вочы. Паасобныя рабочыя, галоўным чынам, старыя рабочыя, актыўныя ўдзельнікі рэвалюцыі 1905 года, нягледзячы на сваю афіцыйную прыналежнасць да максімалістаў ці бундаўскай арганізацыі, адкрыта пачалі адстойваць пункт гледжання бальшавікоў у пытаннях вайны. Менавіта пад ціскам гэтых рабочых кіраўнік арганізацыі максімалістаў т[аварыш] Волах, які вярнуўся тады з Сібіры, дзе знаходзіўся ў васьмігадовай высылцы і які таксама спачатку абараняў тэорыю абарончай вайны супраць нямецкага мілітарызму, вымушаны быў змяніць сваю пазіцыю і прызнацца, што першапачатковы яго пункт гледжання быў няправільным. Ажывілася таксама дзейнасць рэвалюцыйных рабочых, якія пачалі выступаць на паасобных сходах і гуртках, павялі агітацыйную працу сярод салдат. Гэта прымусіла настаражыцца афіцыйных кіраўнікоў

бундаўскай арганізацыі. Яны павялі шалёную атаку для абароны сваіх пазіцый і ў першую чаргу пачалі зрываць сходы. Так, на адным сходзе дакладчык З. Куніца, актыўны працаўнік арганізацыі максімалістаў, крытыкуючы абаронччую пазіцыю Бунда і інш., заявіў, што паасобныя кіраўнікі Бунда (назваў іх прозвішчы) гатовы цяпер не толькі абараняць буржуазію ў гэтай грабежніцкай вайне, але і спрабуюць цалаваць казацкія нагайкі. Узнялося непамернае выццё зняважаных "правадыроў" і сход быў сарваны. У такой абстаноўцы міжпартыйнай барацьбы і досыць часта дробных непаразуменняў і сварак мінуў першы год вайны.

## Нямецкая акупацыя

Паражэнне царскай арміі і адступленне на ўсім заходнім фронце на працягу лета 1915 года суправаджалася бязлітасным зруйнаваннем усіх тых раёнаў, па якіх армія адступала. Вёскі пагалоўна паліліся і разам з імі знішчаўся толькі што зняты ўраджай, а сялянства гвалтоўна выганялася з старых наседжаных месцаў. Сотні тысяч народу сабраліся на дарогах і цэлымі тыднямі перасоўваліся ад Берасця, Беластоку, Горадні і Коўна на Усход. Тысячы народу, пераважна старых, жанчын і дзяцей, гінулі ад халеры, чорнай воспы і тыфу. Целы загінулых валяліся на дарогах, нікім не прыбіраныя і страшныя, чорныя, яны пашыралі наўкола дзікі смурод. Адступаючая армія, пераважна пяхотныя часці, змяшаліся з гэтай велізарнай масай людзей і вазоў, якія рухаліся наперад надзвычайна павалі (наўкола ўтварыліся заторы і па некалькі дзён стаялі на адным месцы), а нямецкія аэрапланы, якія



*Нямецкі жаўнер вядзе селяніна, падазраванага ў шпіянажы. Слонім, 1915-1916 гады*

іх даганялі, лёталі проста над галовамі людзей, бязупынку скідвалі бомбы, вялікае руйнавальнае сілы, пакідаючы пасля сябе груды разарваных цел людзей і коняў, змяшаных у адну кучу.

Такім чынам, у Слонімскім раёне, як і сярод рэшты раёнаў Заходняй Беларусі, у паласе адступлення царскай арміі захавалася ад зруйнавання толькі невялікая група вёсак і мястэчак. Сам горад быў спалены напалову, фабрыкі і заводы ва ўсім раёне былі таксама спалены, а машыны, калі іх не паспелі вывезці, былі знішчаны. Адступаючыя часці, асабліва апошнія, прыкрываючыя атрады казакаў і чаркесаў, дзіка здзекваліся над насельніцтвам, збівалі, рабавалі, гвалтавалі жанчын і, калі не ўдавалася адкупіцца, палілі пагалоўна ўсё, што пападалася на шляху. Нямецкія часці, якія акупавалі раён у першых чыслах верасня 1915 г., у першы час вялі сябе амаль узорна. Гвалтам і рабункам адразу быў пакладзены канец, халера і тыф былі выкаранены ў працягу двух-трох тыдняў, і сяброўскімі былі адносіны салдат да акупаванага насельніцтва. Гэта было да таго часу, пакуль праходзілі перадавыя часці. Але як толькі фронт аддаліўся на 50-60 вёрст на Усход, а ў розных пунктах раёна пачалі засноўвацца штабы, тылавыя часці і шпіталі, адразу адчулася "культрэнерскае" папячэнне нямецкіх юнкероў. У вёсках у сялянскага насельніцтва, што засталося, пачаліся рэквізіцыі, строгія кары за самыя нязначныя ўчынкі, частыя расстрэлы быццам бы за шпіянаж і г. д.

●Якуб Куніца

Працяг у наступным нумары

**Пасля кастрычніцкай рэвалюцыі (перавароту) 1917 года ў Петраградзе.*

***Антыбальшавіцкае ўзброенае выступленне ў ліпені 1918-га. Было падаўлена бальшавікамі. Давід Закгейм (1895 г.н., Свіслач) быў старшынём выканкама гарсавета ў Яраслаўлі (яго сям'я там была ў бежанстве). Забіты 6 ліпеня 1918 года.*

ХРОНІКА

## Іван Ціхан



Пасля свайго выступу на мітынгу ў Гродне 22 жніўня Аляксандр Лукашэнка абняў нашага земляка, кідальніка молата Івана Ціхана. *“Дзякуй табе дарагі, у адрозненне ад іншых, ты аказаўся патрыётам… дзякуй, Ваня, дзякуй”,* — сказаў ён.

## “Гісторыя стварэння музея”

Слонімскі раённы краязнаўчы музей імя Язэпа Стаброўскага паведамляе ў Instagram, што 20 верасня правядзе эскурсію “Гісторыя стварэння музея”. Пачатак — а 12-й гадзіне.

## У Дзярэчыне — музей

У Дзярэчынскім сельсавеце (цяпер — Зэльвенскі раён) адкрылася першая гістарычная зала мясцовага музея, які яшчэ ствараецца. Арганізацыйнай працай займаецца краязнавец Генадзь Коўш. Як паведамляе Радыё Рацыя, большасць экспанатаў ён і яго землякі знайшлі ў Дзярэчыне і ў наваколлі.

IN MEMORIAM

# Леанарда Раўкоўская



Памерла сланімчанка Леанарда Раўкоўская, шматгадовая старшыня мясцовага аддзела Саюзу палякаў Беларусі.




Усе нумары месячніка “Слонімскі край” за 2016-2020 гады можна знайсці на сайце беларускай інтэрнэт-бібліятэкі “Камунікат”: http://kamunikat.org/

“Слонімскі край” — краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар Сяргей Ёрш

Наш адрас: slonimskikraj@gmail.com
Спасылка на “СК” пры передруку абавязковая.